ISSN 0132-5957



# Вожык

Часопіс сатыры і гумару

№ 8 (жнівень) 2015

У нумары:






Малюнак Пятра КОЗІЧА.

Хутчэй, вышэй, весялей!

Міні-кніжка



Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.










Малюнкі Сяргея ВОЛКАВА.




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




Малюнак Аляксандра ШМІДТА.




Малюнак Алега ПАПОВА.

**Міхась МІРАНОВІЧ**




## Праблема

Стаю, маўчу
Ля дачных сцен:
Чаму яно
Вось так выходзіць?
Пасею моркву –
Не расце,
Асот не сею –
А ўзыходзіць...




## Дачнікі

Мы, дачнікі,
Такую ўдачу маем,
Што поўная
Дакукі і турбот:
Пасля жыцця –
У апраметную трапляем,
А пры жыцці –
На дачны агарод!

## У карася – выхадны

Нешта сёння
Рыба не клюе,
На прынаду нашую
Плюе.
Хочам адпачыць
Не мы адны:
І карась сягоння –
Выхадны.

## Ураджай

А мой пункт гледжання
Такі:
Хай дачнік
Неўраджай не лае.
Хоць не ўрадзілі
Буракі,
Але ж свірэпка
Як буяе!

## Не да сну

Перажылі даўно
Вясну,
Пайшло і лета
На зыход.
Ды па начах
Зноў не да сну –
Пільнуем
Дачны агарод.



## Восеньскае

Грыбнікі
Па лесе разбрыліся,
І кашы апенек
Рэжуць спорна.
Журавы
У вырай падаліся,
А за імі дачнікі –
У горад...

*г. Віцебск.*



*Малюнак Паўла ГАРАДЦОВА.*

## Анекдоты

Падчас шахматнай партыі адзін з ігракоў абурана кажа:
– Так хадзіць нельга! Я ж забяру вашага караля!
– Значыць, я абвяшчу рэспубліку – і гульня працягнецца.



– Чаму вам падабаецца футбол?
– Не ведаю, прывык, напэўна.

– А я ведаю. Дома на мяне крычыць жонка, у краме – прадавец, на працы – начальнік, а на футболе – я на ўсіх.



Мяч скардзіцца шайбе:
– Цяжкае ў мяне жыццё: надзьмулі ды нагамі штурхаюць.
– А ты ў вароты часцей залятай, тады на руках насіць будуць! – раіць тая.



– Які твой погляд на спорт?
– Звычайна з півам і чыпсамі.




Малюнак Алега ГУЦОЛА.




Там, дзе шырокая рака
Праславілася месцам клёвым,
Раз поўз чарвяк да паплаўка
З апошніх сіл па лёсцы новай.

Нарэшце вылез ён з вады
Ды крыкнуў рыбаку у лодку:
— Я ледзь пазбавіўся бяды!
Яшчэ крыху — і з'елі б плоткі!

**Уладзімір ЦАНУНІН,**
*г. Вілейка.*



Малюнак Пятра КОЗІЧА.

## БЫВАЕ І ТАК...

Пайшоў красці парася — з хлява ўкралі карову.

Грыбнік збірае грыбы. Старасць — хваробы.

Пагнаўся воўк за касуляй — трапіў на паляўнічага.

Паляўнічы цікуе на звяроў. Ахоўнікі прыроды — на браканьераў.

Бацькі даюць дзецям жыццё. Тыя потым адымаюць яго ў бацькоў.

Хадзіў сватам — вярнуўся жаніхом.

Пячнік увіхаецца з кельмаю. Лайдак — з лыжкаю.

Лавіў рыбу сеткамі — злавілі самога.

Кляўся жонцы ў вернасці — здрадзіў палюбоўніцы.

**Заўважыў Віктар ЛОЎГАЧ**
*Гомельская вобласць,*
*г. п. Акцябрскі.*




Апошнім часам без ахвоты
Гляджу па «тэлеку» футбол,
Не лаюся, калі ў вароты
Сапернік забівае гол.
Раней быў малады і лоўкі,
Наведваў часта стадыён.

Хоць дакучаў «Спартак» маскоўскі,
Крычаў: «Дынама — чэмпіён!»
Хварэлі мы за Пракапенку,
Не мог стрымацца, помню, кум:
«Ці ж перашкода табе сценка?
Збі гонар голам чужаку!»
Ён наш мясцовы Марадона,
І ведаў кожны беларус:
Бабруйск — футбольная Сарбона,
Пракоп — яе казырны туз.

Дынамаўскі футбольны крэйсер
Вёў Малафееў Эдуард,
На лаўцы запасных ён рэдка
Сядзеў, не мог стрымаць азарт.
Так, той футбол быў адмысловы,
Бо захапляла ўсіх гульня.
Цяпер, здаецца, і паловы
Заўзятасці былой няма.
Панік і я. Хаджу з сябрамі
На свой, раённы стадыён.
Каманда нашая, між намі,
Заўжды — мясцовы чэмпіён!



**Улад СКАМАРОХ,**
*г. Мінск.*






# Не па-суворагаўску

*Міні-фельетон*

Прыпіскі

Кожны, хто чуе прозвішча Сувораў, узгадвае найвялікшага рускага палкаводца, аднаго з заснавальнікаў рускага ваеннага майстэрства, кавалера ўсіх расійскіх ордэнаў свайго часу, нацыянальнага героя. Як вядома, ён не прайграў ніводной бітвы, прычым пры лікавай перавазе непрыяцеля.

Згадзіцеся, асоба знакавая, і кожны, хто мае да яе хоць нейкае дачыненне, абавязаны «трымаць марку». На жаль, у барысаўскім ААТ «Аграфірма імя Суворава» знакамітае прозвішча зняславілі.

Пра гэта гаварылася на сумесным пасяджэнні Барысаўскага міжраённага камітэта дзяржкантролю і мясцовага райвыканкама, дзе абмеркавалі вынікі папярэдняй праверкі прадпрыемства.

У першую чаргу кантралёры натрапілі на прыпіскі. Сёлета ў маі вага пагалоўя буйной рагатай жывёлы была завышана амаль на 195 тон. Затое ў студзені (праўда, толькі на паперы) «узрос» на 18 тон паказчык па надоях малака. Неверагодна, але факт: у канцы мінулага года супрацоўнікі пракуратуры ўжо «лавілі» кіраўніцтва аграфірмы на прыпісках.

У другую чаргу — выявілі, што хоць гаруча-змазачных матэрыялаў у таварыстве пастаянна не хапала, іх выкарыстанне ніхто не кантраляваў. Рэшткі паліва ў баках не здымалі, спісвалі па факце, не шкадавалі запраўляць ім асабістыя аўто асобных спецыялістаў.

У трэцюю, чацвёртую, пятую і г. д. чэргі правяраючыя знайшлі шматлікія парушэнні заканадаўства аб дзяржаўных закупках і працоўнага заканадаўства, бухгалтарскага ўліку, санітарных норм і правіл і многае іншае.

Матэрыялы праверкі перададзены ў праваахоўныя органы. Але ўжо зараз прыняты меры па недапушчэнні такіх парушэнняў, вырашаецца пытанне аб звальненні з пасад некаторых службовых асоб (галоўнага агранома, галоўнага заатэхніка і бухгалтара).

Можа, каб гаспадаркай кіраваў чалавек, хоць крышачку падобны характарам на вялікага палкаводца, то «Аграфірма імя Суворава» вырашыла б усе праблемы і абышлася без прыпісак?..



**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**




Малюнак Алега ПАПОВА.



Малюнак Алега КАРПОВІЧА.




Ноччу Мікола дрэнна спаў. У горадзе панавала неверагодная спёка, нават расчыненыя вокны не давалі ніякага палягчэння. «Хоць бы ветрык які падзьмуў, а лепш — прахалодны скразнячок», — марыў мужчына. Некалькі разоў падымаўся з ложка, хадзіў піць халодную ваду і абліваць твар, але нічога не дапамагала. Сон не ішоў. «Добра, што цяпер у адпачынку, інакш на працы ўвесь дзень носам кляваў бы... Уключу тэлевізар, можа, пад яго атрымаецца заснуць», — праносіліся думкі ў галаве Міколы. Толькі а пятай гадзіне раніцы пад шэпт нейкага фільма ў яго атрымалася праваліцца ў сон.

Але ў восем ён прачнуўся. Адчуваў сябе зусім разбітым.

— Лета — цудоўная пара года! Ага, канешне. Пацееш і ад гарачыні знемагаеш — вось і ўсё. Пайду на возера, хоць пакупаюся і асвяжуся, — вырашыў Мікола.

Пакуль паснедаў, сабраўся, сонца ўжо добра прыпякала. Па дарозе вырашыў зайсці ў госці да калегі Сяргея, які таксама быў у адпачынку. Купіў у магазіне астуджанага піва: не з пустымі ж рукамі ісці.

— Ох, думаў, зваруся, пакуль дайду да цябе! — зайшоўшы ў кватэру сябра, паскардзіўся Мікола. — Нічога, халодненькае піўцо нам зараз дапаможа.

Сяргей заўсміхаўся:

— Сам хацеў бегчы ў магазін, але ты мяне апярэдзіў.

— Так, я малайчына, ведаю. Слухай, пайшлі пакупаемся, бо аднаму сумна, ды і асвяжыцца вельмі хочацца.

— З задавальненнем, але сантэхнік неўзабаве павінен завітаць. Ты ідзі, а я цябе даганю, як ён скончыць працу, — прапанаваў Сяргей.

— Добра, звані тады, адшукаемся, — сказаў Мікола і разліў па куфлях пенны напітак.

Па дарозе на пляж ён вырашыў купіць яшчэ піва. Халодны напой хоць на кароткі час, але асвяжаў.

Каля вады было шмат людзей. Хто плаваў, хто загараў, хто гуляў у валейбол, а хто будаваў замкі... Мікола сеў у цяньку і зрабіў пару глыткоў з бутэлькі.

— «Лепотаааа», — прамармытаў ён сабе пад нос фразу са знакамітай камедыі і заплюшчыў вочы.

Алкаголь так размарыў на сонцы Міколу, што той не заўважыў, як апынуўся ў царстве Марфея...

— Прывітанне, дружа, даўно не бачыў цябе. Як справы? — падышоў да яго мужчына.

Мікола расплюшчыў вочы і ледзьве не страціў прытомнасць — над ім стаяў былы аднакласнік, які некалькі гадоў таму ўтапіўся. Не верачы сваім вачам, здзіўлена спытаў:

— Грыша? Ты ж, таго, на той свет адправіўся, як жа так?

— Так, па дурасці загінуў. Выпіў лішку, палез у ваду, а на глыбіні нагу сутарга скруціла... З таго часу я тут і застаўся. Можна сказаць, прыглядаю за людзьмі на гэтым пляжы, быццам выратавальнік. Ты не пужайся, нічога дрэннага не зраблю. Захацелася з табой пагаварыць, засцерагчы, — спакойна сказаў Грыша.

— Ад чаго? Навошта? — не зразумеў Мікола.

— Ды каб не паўтарыў маіх памылак, не палез п'яным у ваду. Ведаеш, колькі людзей гіне з-за сваёй нядбайнасці? Возьмем пачатак купальнага сезона сёлета. За адзін толькі тыдзень па дадзеных Беларускага рэспубліканскага таварыства выратавання на водах патанула дзесяць чалавек, трое з іх — падчас купання. Выцягнуць з вады




Малюнак Алега КАРПОВІЧА.

# Анекдоты

Па старадаўняй бразільскай традыцыі той, хто злавіў на вяселлі букет нявесты, становіцца на вароты.

☺ ☺ ☺

Я ўжо паўгода наведваю трэнажорную залу, таму мая дзяўчына адчувае сябе пад надзейнай аховай. Калі да нас раптам прычэпяцца хуліганы, я змагу трыццаць разоў прысесці і дваццаць — адціснуцца.

☺ ☺ ☺

Для адных спорт — прафесія, для другіх — хобі. Ну, а для кагосьці гэта канал па тэлевізары.

☺ ☺ ☺

Люблю, калі муж з сябрамі глядзіць футбол. Усё зробіць, абы нічога не замінала. За мінулы Чэмпіянат Еўропы мне ўдалося памяняць гардэроб ажно тры разы!

ўдалося пяць чалавек. А атрымаў заўвагі наконт парушэння правіл паводзін на вадзе 481 купальшчык, — паведаміў незвычайны «выратавальнік».

— А за год колькі людзей адправілася на той свет?

— Па дадзеных на шостае ліпеня — 177 чалавек. Пры купанні патанулі 52 чалавекі (з іх чатыры непаўналетнія). Летась за ўвесь купальны сезон ахвяр было значна больш — ажно 248 (з іх восем непаўналетнія).

Памаўчаўшы крыху, ён прадоўжыў:

— Ведаеш, каб людзі прыслухоўваліся да парад, як паводзіць сябе на вадзе, то тапельцаў было б значна менш. Возьмем мяне, напрыклад. Палез п'яны ў раку. А такіх вось небарак сярод тапельцаў — каля 70 працэнтаў штогод. І хоць бы людзі пачалі задумвацца над гэтымі лічбамі...



— Але ж трэба неяк ад спякоты ратавацца, а прахалодная вада — найлепшае выйсце. Ці гэта не так і, можа, лепш увогуле не лезці ў вадаёмы? — вырашыў паспрачацца Мікола.

— Чаму не лезці? Я ж не гавару пра тое, што трэба паміраць ад гарачыні. Паводзіць сябе на вадзе трэба акуратна, правільна і асцярожна. Уважліва адносіцца да людзей, якія плаваюць побач, купацца толькі ў прызначаных для гэтага месцах, добра ацэньваць свае фізічныя магчымасці і — галоўнае — мець галаву на плячах, калі заходзіш у ваду. Гэта стыхія не даруе памылак. Сам падумай: за лета 2010 года патанула больш за 1300 чалавек, у 2011 і 2012 гадах — 730 і 705 чалавек адпаведна, — малюючы галінкай нешта на пяску, далей распавядаў Грыша.

— А летась? — спытаў Мікола.

— 248 чалавек, у тым ліку 18 дзяцей і падлеткаў...

Абодва на нейкі час замаўчалі, узважваючы агучаныя лічбы. Нарэшце Мікола не стрымаўся:

— Вось дурань! А каб сам сканаў у вадзе? Бязглуздая смерць... Я ж да сівой галавы дажыць хачу, не рыб карміць. Дзякуй табе, нават і не задумваўся ніколі, што вада можа быць такой каварнай. Асабліва, калі чалавек не ўспрымае яе ўсур'ёз.

— Добра, што ты гэта зразумеў. Калі б і астатнія гэтак жа разважалі, было б цудоўна. Бывай і будзь асцярожны, — сказаў былы аднакласнік і знік якраз у той момант, калі ў Міколы зазваніў мабільны.

Той ачуняў ад сну, падняў трубку.

— Ты яшчэ на пляжы ці пайшоў? — пачуўся голас Сяргея.

— Яшчэ тут, але патэпаю дадому. Нешта я лішку выпіў... У ванне паплёскаюся, асвяжуся, — задуменна адказаў Мікола.

— Дзівак нейкі... Тады, можа, заўтра рванём за горад на возера на ўвесь дзень? — прапанаваў калега.

— Я згодны, толькі давай без гарэлкі. Яе з купаннем не варта сумяшчаць...

Сяргей засмяяўся:

— Без яе, дык без яе. Будзем на сувязі, — і адключыў тэлефон.

Мікола крыху пасядзеў, падумаў.

— Прымроіцца ж такое! Але Грыша праўду гаварыў. І своечасова, як я разумею. Мабыць, засцерагаў ад бяды. Усё, дамоў, сёння дакладна ў ваду ні нагой, — ціхенька сказаў ён і пайшоў з пляжа.

**На пляжы пабывала Наталля КУЛЬГАВАЯ.**



Малюнак Алега ПАПОВА.



Малюнак Алега ГУЦОЛА.

Вернісаж



*Алегу КАРПОВІЧУ – 55!*

*Рэдакцыя часопіса «Вожык» сардэчна віншуе вядомага мастака-карыкатурыста, адметнага майстра алоўка і пэндзля, члена рэдкалегіі выдання Алега Іванавіча КАРПОВІЧА з 55-годдзем і жадае творчага натхнення, моцнага здароўя, шчырага смеху на доўгія гады!*











**Андрэй СІДАРЭЙКА**






Аднойчы летам я сядзеў у двары на лаўцы. Да мяне падышоў сябар Мішка і паскардзіўся:

– Жонка ўвесь час пілуе. Маўляў, у цябе не жывот, а кавун! Хоць бы бегаць пачаў. Можа, ён тады стаў меншы.

– І што? – пацікавіўся я.

– Давай са мной за кампанію бегаць. У цябе ж таксама жывот ёсць. І адным галадаморам яго не возьмеш, – нечакана прапанаваў ён.

Я пагадзіўся. У сваю кампанію мы запрасілі яшчэ Жэньку і Лёшку, таксама не худзенькіх мужчын.

Калі дамаўляліся пра даўжыню дыстанцыі і месца, Лёшка заўважыў:

– Бегаць за проста так не цікава. Патрэбны стымул. Спартсменам медалі ўручаюць. Мы чым горшыя?

– А як жа здаровы лад жыцця? – укалоў Жэнька.

– Без гэтага нельга, спрачацца не буду. Але мне неабходны стымул, без яго не магу нічога рабіць, – не супакойваўся Лёшка.

Крыху падумаўшы, Мішка сказаў:

– Давайце бегаць да бліжэйшага кругласутачнага магазіна. Гэта прыкладна метраў восемсот. Купляем там

Віктар РЭЧЫЦ



## Свой час

У нас быў «летні час»,
Быў «час зімовы».
Ў гадзінніках мы стрэлкі
Пераводзілі.
А потым там і тут
Я чуў размовы:
Здароўю чалавека
Гэта шкодзіла.
З такой адменай
Не хачу згаджацца,
Штодня іх перавесці
Сам стараюся:
Назад – калі спазняюся
На працу,
Наперад – як дамоў
Ісці збіраюся.





## Абнаўленне пачуцця

– Уяўляеш, Юра, трыццаць
Год з Мацільдаю сваёй
Я пражыў, і пасварыцца
Мне не давялося з ёй.

– Што, не грызліся? Не веру.
Ці ж сюсюкалі ўвесь час?
Прэснае жыццё, Валера,
Дalібог, было у вас.

У мяне з маёй Варваркай
Свой расклад, зусім не так:
Кожную дэкаду – сварка,
Сум не страшны нам ніяк.

Гэта, я пераканаы,
Рухавік сям'і, жыцця.
Прымірэнне для каханых –
Абнаўленне пачуцця.




## Лішняя вага

Жанчына ў ліфт зайшла – чырвоны
Адразу замігцеў сігнал.
Стаяў мужчына побач поўны,
Заўважыў: «Лішняя вага».

Агульную вагу мужчына
На ўвазе меў, а не яе.
Ды тая бліснула вачыма,
Адсекла: «Гляньце на сябе!»



піва і вяртаемся назад. Хто першы прыбягае – не плаціць за яго ўвогуле, апошні аддае палову грошай, астатняе на сумленні тых, хто займае другое і трэцяе месца ў нашых «спаборніцтвах».

Такі варыянт задаволіў усіх. На наступны дзень мы сабраліся ў сем гадзін раніцы і пабеглі па выбраным маршруце. Раз-пораз абганялі адзін аднаго, бо ўсе хацелі прыбегчы першымі і выпіць піва на халяву. У выніку выйграў наша спаборніцтва я. Другім прыйшоў Жэнька, трэцім – Мішка, апошнім ледзь даклыпаў Лёшка.

Праз дзесяць хвілін пасля прыняцця «піўнога стымулу» лёгкай трусцой мы пабеглі дадому. Бо трэба было яшчэ паспець пераапранууца і выправіцца на працу. Каля дома жонкі сустрэлі нас як герояў. «Малайцы! – казалі яны. – Працягвайце далей!»

Кідаць мы і не думалі. Стымул не даваў. Але толькі на фінішы другі тыдзень нічога не мянялася. Лёшка аплачваў палову кошту піва. Нарэшце ён не вытрымаў і пасля чарговага правалу заявіў:

– Я ведаю, чаму ты выйграеш! Бо ты не курыш! Усё, сёння ж кідаю.

Праз тыдзень яму ўдалося абагнаць Мішку, які стаў на гэты раз апошнім. Той у сваю чаргу заўважыў:

– Адным бегам жывот не сагнаць. Тут дыета патрэбна. Пачынаю правільна харчавацца. А галоўнае – у меру!



Працяг на стар. 8.




Шарж Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

**З 60-годдзем**

*__Генадзя Пятровіча АЎЛАСЕНКУ__, беларускага пісьменніка. Шмат твораў прысвяціў дзецям. Казкі пісьменніка друкаваліся ў калектыўных зборніках, выйшла шэраг кніг. Актыўна працуе ў галіне фантастыкі. Але не забываецца Г. Аўласенка і на гумар. У часопісе «Вожык» выступае з вершаванымі мініяцюрамі, пародыямі, гумарыстычнымі сцэнкамі і п'есамі.*

*Жадаем Генадзю Пятровічу жыццёвага і творчага даўгалецця, аптымізму, вясёлага настрою.*



**Генадзь АЎЛАСЕНКА**



## Ода каларадскаму жуку

О, жук каларадскі, бліскучы і чорнапалосы!
Сабой невялікі, ды маеш вялікую моц ты.
Прастор акіянскі не стаў для цябе перашкодай,
З далёкай зямлі каларадскай сюды аж дабраўся.
Прыехаў, каб сум разагнаць, каб даць людзям занятак,
Бо што мы рабілі раней на палетках бульбяных?
Акучвалі пару разоў — вось і ўся тая праца!
З'яўленне тваё памяняла усё кардынальна:
З любімаю бульбачкай бачыцца сталі штодзённа,
Рады абыходзім, куст кожны асобна вітаем,
І ў гэтым заслугу тваю несумненную бачым.
Што наша жыццё — барацьба, мы забыцца паспелі,
Жучок нагадаў нам аб сэнсе адвечным і важным.
Змагаемся зараз з прышэльцам, хоць поспех нязначны.
Ды вынік — нішто! Сам працэс — вось галоўная мэта!
Дык дзякуй табе, о жучок, ад усіх беларусаў,
За тое, што бульбы ўраджай да канца не з'ядаеш,
Крыху пакідаеш нам з ласкі сваёй каларадскай,
За тое яшчэ, што з'яўленнем сваім нечаканым
Нашмат упрыгожыў, зрабіў разнастайнай прыроду.
Дык слаўся ж, о жук каларадскі, бліскучы і чорнапалосы!
Народ беларускі, а дачнікі, дык асабліва,
Ніколі цябе не забудуць, пражэру і злыдня,
Бо так іх даняў...
Няхай на цябе ліхаманка!

---

Працяг. Пачатак на стар. 6.

Так мы ўзяліся вывучаць літаратуру па здаровым харчаванні. Пасля двух месяцаў узважыліся. Вынік парадаваў: хто схуднеў на дзесяць кілаграмаў, а хто — на ўсе пятнаццаць.

«Не спыняйцеся, не спыняйцеся!» — падбадзёрвалі нас жонкі.

Спыняцца нават не думалі. Кінулі курыць, пачалі правільна харчавацца... І калі раней васемсот метраў пераадольвалі за пятнаццаць хвілін, то цяпер — за дзесяць. Праз тры месяцы — увогуле за сем.

Затым Мішка прапанаваў бегаць да іншага магазіна, які знаходзіўся на паўкіламетра далей. Усе пагадзіліся... Праз месяц нашы «кавуны» амаль высахлі. І мы вырашылі запісацца на гарадскія спаборніцтвы па лёгкай атлетыцы. У прызёры не трапілі, але былі блізкія да гэтага.



Віншуем!



Шарж Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

*З 65-годдзем*

*Міхася СЛІВУ (Міхаіла Мітрафанавіча Кавалёва), беларускага пісьменніка. М. Сліва – даўні вожыкаўскі сябра, слынны айчынны гумарыст, аўтар многіх кніг. Найбольш вядомыя з іх – «Усмешка Джаконды», «Запрашаю ўсміхнуцца», «Ход канём», «Віртуальнае каханне», «Жыццё на Парнасе» і іншыя. Лаўрэат рэспубліканскай літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» у намінацыі «Сатыра і гумар».*

*Зычым Міхаілу Мітрафанавічу цікавых і вясёлых творчых знаходак, бадзёрасці, поспехаў ва ўсіх справах!*

**Міхась СЛІВА**

## УСМЕШКІ

### Не трэба хваляваццa

У магазіне.

– Дайце мне, калі ласка, кнігу скаргаў!

– А чым вы незадаволены?

– Тут вялізная чарга і марудна рухаецца.

– Не хвалюйцеся, па кнігу скаргаў чарга такая ж...

### На калдобінах лепш

Размаўляюць пасажыр і вадзіцель.

– Чым табе не падабаецца гэтая прамая, роўная, добра заасфальтаваная дарога?

– Едучы па ёй, я магу заснуць за рулём!

### «Шанцуе»

– Шанцуе нашаму Эдзіку, кожны дзень сустракаецца з начальнікам у кабінеце!

– Ага, той выклікае яго, каб даць наганяй...



### Перастрахаваўся

Старшыня таварыства паляўнічых і рыбаловаў праводзіць інструктаж перад выездам на паляванне:

– Пры сустрэчы са мной вы абавязкова павінны разрадзіць свае ружжы!



### Эканомія

– Нешта вы вельмі часта мяняеце электралямпачкі ў сваім памяшканні...

– А яны ў нас энергазберагальныя: хутка перагараюць, даюць магчымасць эканоміць электраэнергію.

---

– Яшчэ паўгода патрэніруемся, і будзем у ліку пераможцаў, – казаў тады Мішка.

Яшчэ праз два месяцы Лёшка прапанаваў:

– А можа, ну яго, стымул? Толькі перашкаджае спартыўнаму росту.

Але праз тыдзень без стымулу стала не цікава трэніравацца. І ён вярнуўся ў нашае спартыўнае жыццё.

– Піва, вядома, не золата алімпіяд, але таксама нешта значыць, – пагадзіліся ўсе.

На наступных гарадскіх спаборніцтвах сярод аматараў мы занялі прызавыя месцы. І на нашых грудзях зазіхацелі маленькія медалі. Я з Мішкам узяў золата, Лёшка з Жэнькам – срэбра і бронзу адпаведна.

– Ну, што, у спартзалу махнём? Будзем штангу падымаць, – сказаў нам Мішка пасля ўзнагароджання.

Мы былі не супраць. Але Лёшка зноў пацікавіўся:

– А стымул?

– Хто менш за пяць разоў сто кілаграм выцісне, той бяжыць у краму па піва, – прапанаваў Жэнька.

– На першы час сыдзе...

Цяпер мы ходзім у спартзалу. Ужываем пратэін і іншую спартыўную ежу. Першыя вынікі ўжо ёсць. Спартыўны рост стымулюе піва. Для хатніх мы – сапраўдныя героі. Яны ганарацца намі, а мы – сабой! Набліжаюцца гарадскія спаборніцтвы па цяжкай атлетыцы. Возьмем медалі ці не – пакажа час. А пакуль атрымліваем асалоду ад здаровага ладу жыцця. І стымулу...



*Рэчыцкі раён,*
*в. Каравацічы.*




Жанчына ведае, што кажа. Гэта мужчына не разумее, што чуе.

**Не рызыкуйце экалагічнай раўнавагай. Не паказвайце блізкім, дзе ракі зімуюць.**

Воўк і ў авечай шкуры не адмовіцца ад бараніны.



Малады певень спяваў курам на смех.

**Не прыручайце прыроду поўнасцю. Пакіньце некаторыя яе куткі дзікімі.**

Перш чым пагаварыць, як мужчына з мужчынам, праверце, ці няма паблізу жанчын і дзецей.



**Даслаў Віктар САЛАНЕЦ,**
*г. Любань.*

## Усё новае

*Гісторыйка*



Малады аўтамеханік, у якога нядаўна нарадзіўся сын, стомлены і змучаны прыходзіць дадому з працы. Немаўля плача неперастаючы, і ніхто не можа яго супакоіць.



– Мабыць, яму нешта баліць? – выказвае здагадку бабуля.

– Ды што ў яго можа балець, калі ўсё яшчэ новае! – упэўнена зазначае бацька.

**Даслала Ганна ЧАРНУШЭВІЧ,**
*Слуцкі раён,*
*в. Замосце.*




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Валянціны ГАРБАЧУК.








Шарж Анатоля ВОЛКАВА.

## ЯРКІ ДАР САТЫРЫКА

*Вядомы беларускі паэт-сатырык Уладзімір КОРБАН (1910 – 1971) нарадзіўся ў пасёлку Барань бліз Оршы. Амаль два дзесяцігоддзі Уладзімір Іванавіч працаваў у часопісе «Вожык», а ў 1967–1971 гг. быў яго галоўным рэдактарам. У гады Вялікай Айчыннай вайны камандаваў стралковай ротай, удзельнічаў у баях за вызваленне Беларусі. Аўтар шматлікіх зборнікаў сатырычных вершаў, баек і фельетонаў (чатыры кнігі пабачылі свет у «Бібліятэцы «Вожыка» – «Дакладныя прыкметы» (1958), «Сіняк» (1964), «Дзям'янава юшка» (1970), «Жук і мёд» (1980)), зборнікаў гумарыстычных апавяданняў «Да цешчы на бліны» (1963), «Дзядзькава крыўда» (1982).*

*«Дакладныя прыкметы» сваіх герояў У. Корбан ведаў як ніхто іншы. Пэўна, таму такой папулярнасцю карысталіся ў чытачоў яго байкі, якія і сёння гучаць, нібы толькі што напісаныя. Згадаем адну з іх з нагоды 105-годдзя з дня нараджэння выдатнага сатырыка.*

### Уладзімір КОРБАН




Мастак партрэт намаляваў
Уласнай жонкі.
Калі ён твор сябрам дэманстраваў,
Хвалілі ўсе: «Малюнак тонкі,
Глыбокі, непасрэдны, звонкі!
Відно адразу, – ў мастака
Упэўненыя вока і рука».
І толькі жонка ціхенька стаяла,
Глядзела і плячыма паціскала.
«Няўжо, – пытала, – гэта я?»
«А як жа, любая мая! –
Казаў мастак. – І пекны стан дзявочы,
І шыя лебядзіная твая, і рот...»
«А хіба ж у мяне на пузе вочы?»
«Ну, ведаеш, – абстрактны падыход
Быў у мяне да гэтай працы.
Каб гэта зразумець, патрэбна пастарацца
У корань сутнасці зірнуць.
Мазгамі трэба варухнуць!
Зірнуўшы на стварэнне вось такое,
Сабе ўяві сапраўднае, жывое, –
Тады і зразумееш свой партрэт.
Ну, дай нам закусіць».
Наладжан быў банкет.
Кілішкі налілі, кульнулі і... знямелі.
Сядзяць, глядзяць адзін на аднаго.
Вось нудзіць пачало і гэтага, й таго...
Нарэшце закрычалі, зашумелі:
«Чым нас частуюць!» «Жах!» «Падман!»
«Піць прапаноўваюць рыцыну»
«А закусь – міска гуталіну!»
«Аконны кіт!» «Саман!»
«Агідна!» «Брыдка!» «Непрыстойна!» –
Пачулася наўкол.
А гаспадыня й кажа ім: «Спакойна! –
Я вам наладзіла абстрактны стол.
Калі ў той пэцкатні, што ў творы мужа,
Пазнаць сябе я мушу,
Ягоную мазню за свой партрэт лічыць,
Дык вы таксама можаце ўявіць,
Што на стале стаяць ікра, паштэты,
Салаты розныя ды вінегрэты,
А ў пляшках не рыцына, а каньяк».

---

Абстрактных пэцкуноў
заўжды карміць бы так.
А то лухту ўсялякую малююць,
А харч рэальны патрабуюць.

*«Сіняк», 1964 г.*






Анекдоты



Лаеш жонку за тое, што яна цэлымі днямі сядзіць у «Аднакласніках»? Заедзь туды на сваім «танчыку», расстраляй усіх яе прыхільнікаў і забяры дамоў спаць!

* * *

Размаўляюць два актыўныя карыстальнікі інтэрнэту:

– Як справы?

– Усё нармальна, толькі пальцы баляць.

– Чаму?

– Учора з сябрамі ў чаце сустрэліся, усю ноч песні гарлапанілі.

* * *

Ліст сяброўцы:

«Прывітанне, дарагая! Муж нарэшце дазволіў мне карыстацца сваім камп'ютарам. Нават паштовую скрыню завёў. Цяпер можаш пісаць мне па гэтым адрасе: жонка сабака жыцця кропка няма».

* * *

Столькі вокнаў у браўзэры парасчыняла, ажно скразняк з'явіўся!

* * *

Гутарка двух заўзятых інтэрнэт-карыстальнікаў:

– www.zarplaty.net...

– www.kak.vsegda.net!

– www.kak.zhe.ya.domoy.po.edu?

– www.pesh.com!

* * *

Не люблю прыбірацца, таму набыў робат-пыласос. Сабраў, уключыў. Той зрабіў азнаямленчы круг па кватэры і кінуўся наўцёкі.







# АФАРЫЗМЫ

*Іранічныя прынцыпы і законы жыцця, названыя імёнамі людзей, што іх адкрылі*

*Эксперт – любы чалавек не з нашага горада.*

Правіла Марса

*Тое, што вы захоўваеце вельмі доўга, можна выкінуць. Як толькі вы штосьці выкінеце, яно вам спатрэбіцца.*

Правіла ўзаемазалежнасці Рычарда



*Згубленае заўсёды знаходзіш у апошняй кішэні.*

Закон Буба

*Нельга загадзя правільна вызначыць, які бок бутэрброда мазаць маслам.*

Закон наравістасці прыроды

*Гарачая колба выглядае гэтак жа, як і халодная.*

Першы закон работы ў лабараторыі

*Пра карупцыю ва ўрадзе заўсёды паведамляецца ў мінулым часе.*

Уотэргейцкі прынцып

*Найбольш высокамаральныя звычайна тыя, хто далей за ўсіх ад рашэння задач.*

Прынцып Алінскага

*Па разумных прычынах нічога не робіцца.*

Закон О'Браэна

*На кожнае дзеянне ёсць роўная яму супрацьдзейная крытыка.*

Пастулат Харысана

*Хто плаціць менш за ўсіх, больш за ўсіх скардзіцца.*

Закон прафесійнай практыкі Дру



# Мініяцюры

## Аб'ява ў інтэрнэце

Хачу сустрэць сваё каханне,
Люблю ў жанчыне маладосць.
А што датычыцца спаткання,
«Ноў проблем», бо пакойчык ёсць...



## Крызіс жанру

І оперны саліст стаў пець «папсу»,
Каб зарабіць на хлеб і каўбасу,
Бо выкананнем арый і рамансаў
Сягоння пракарміцца меней шанцаў.



## Не сышліся

Былі б Васіль ды Ганна дружнай парай,
Але ўзаемазгоды нестае.
Мужчына пра Ганульку доўга марыў,
Пакуль жаданне не спазнаў яе:
Яшчэ нявестаю хацела Ганна
Трымаць у цуглях мужа пастаянна.



## Прафесійная прыгоднасць

Сапраўдным гумарыстым той з'яўляецца,
Хто больш да самакрытыкі схіляецца,
Гатовы з непасрэднасцю паяца
І над сабой любімым пасмяяцца,
Бо лічыць, што ў жыццёвай барацьбе
Няўдачы кожны церпіць з-за сябе.



**Анатоль ЦЫРКУНОЎ,**
*г. Мінск.*



– Як ваша язва?
– На курорт паехала...

Малюнак Сяргея ВОЛКАВА.






# Вяртанне ў дзяцінства

*Міні-фельетон*



Дзве сяброўкі-пенсіянеркі Марыя і Ганна сустрэліся ў абед. Звыкла селі на любімай лаўцы, якая стаяла пад раскідзістай яблыняй. Бачыліся яны амаль кожны дзень. Расказвалі апошнія навіны, раіліся наконт ураджаю, дзяліліся рэцэптамі страў, скардзіліся на здароўе...

– Ганначка, я ўжо думала ты не прыйдзеш, зачакалася. Здарылася, можа, што? – нарэшце ўбачыўшы сяброўку, спытала Марыя.

– Спіну нешта скруціла. Пакуль маззю нацёрла, дык і спазнілася. Здаецца, надвор'е будзе мяняцца, – супакоіла тая.

– Дык кампрэс які зрабі.

– Зараз боль адступіць, я свае старыя косці ведаю, – усміхнулася Ганна. – Што новага чуваць?

Марыя крыху падумала і сказала:

– Пятрусь пачаў да Веры заляцацца. Штодзень ходзіць да яе з цукеркамі на гарбату, шчабечуць там. А гэтаму дзеду, між іншым, семдзесят у наступным годзе будзе, на пятнаццаць гадоў за яе старэйшы!

Ганна засмяялася:

– Ага, сівізна ў бараду, чорт у рабрыну. Але чаму б ім і не сысціся: абое свабодныя, чаго яшчэ шукаць? Лепей ужо так, чым калі старыя ў малых дзяцей ператвараюцца...

– Гэта ты пра што? – не зразумела сяброўка.

– Ды чытала нядаўна навіны, дзівілася дурасці старых. Вось як ты лічыш, хто часцей за ўсё звоніць па тэлефонах першай неабходнасці з намерам пашуткаваць, паведаміць, напрыклад, пра замініраваны будынак? – спытала Ганна.

– Школьнікі, мабыць, ці падлеткі беспрытульныя.

– Вось і я так думала. Але не! У сярэдзіне ліпеня ў Оршы 75-гадовы пенсіянер пазваніў у міліцыю і заявіў, што плануецца ўзрыў падвеснага моста праз раку. Міліцыянеры адразу выехалі на месца, але ніякай бомбы не знайшлі.

– Ну, здзяцініўся адзін дзядок і што з гэтага? – адгукнулася тая.

– Каб жа адзін! На наступны дзень ужо ў Наваполацку другі стары пазваніў па тэлефоне «102» і паведаміў пра выбуховае прыстасаванне ў дзіцячым садку. І зноў там нічога не знайшлі... Ілжывыя выклікі скончыліся тым, што былі ўзбуджаны крымінальныя справы.

– Ой, слухай, і я ўзгадала падобны выпадак! Нядаўна чула, як адна пенсіянерка пазваніла ў «Гомельвадаканал» нешта ўдакладніць. Адказ ёй не спадабаўся, і кабета так раззлавалася, што з гарыччу выпаліла: «Каб вас узарвала і на ваду пусціла!» Аператар палічыла гэта за пагрозу і паведаміла начальству, а тое выклікала міліцыю. А далей – усё, як у тваіх гісторыях. Прыехалі, нічога не знайшлі, зафіксавалі ілжывы выклік, – расказала Марыя.

– Але, дзіўныя старыя. Лепш бы ў лялькі ці машынкі пагулялі, калі захацелася дзяцінства ўспомніць, – засмяялася Ганна. – Ці з унукамі паняньчыліся... Пайшлі хутчэй да мяне на гарбату, пакуль ніхто нашу лаўку не замініраваў.

Марыя ўсміхнулася, і сяброўкі накіраваліся да Ганны на пачастункі.

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**






**Астап ВІШНЯ**

# Ні пуху, ні пер'я

*(Урыўкі з апавяданняў «Паляванне», і «Адкрыццё палявання»)*





Ах, туманы над азёрамі!

Ах, лугі над Данцом, над Пслом, над Ворксклаю!

Ах, лясы! Ах, палі шырокія!

Божа, ды хто ж выдумаў гэта ўсё?!

Хто прыдумаў качку-крыжанку, хто зайца стварыў ды лісіцу?!

Ды ці ведаеце вы, што гэта ўсё робіць з чалавекам?!

З тым чалавекам, які ў звычайны час жыцця свайго паўсядзённага самы нармальны сярод нармальных усіх людзей, а ў суботу або ў дзень перад святам пачынаюць у яго (у чалавека ў таго) бегаць вочы, пачынае той чалавек на крэсле круціцца, ёрзаць, пазіраць штохвіліны на гадзіннік, а потым непрыкметна, бачком, бачком, за картуз – і шусь з установы!

І бяжыць той чалавек дадому, хапае стрэльбу, ягдташ, патранташ, сабаку і імчыцца на вакзал, бо ж а чацвёртай гадзіне цягнік ідзе!

І ніякая сіла не ў сіле спыніць таго чалавека!

І ніколі ніхто яго не спыніць, бо... Ах, туманы над азёрамі! Ах, лясы! Ах, палі шырокія! Ах, качкі! Ах, зайцы!

Бо той чалавек – паляўнічы!

Няма ў свеце найбольшай сілы, чым жонка!

Але на гэты раз і жонка нічога не зробіць...

І жончына сіла разбіваецца аб туманы над азёрамі, аб лясы, аб палі шырокія!..

* * *

– Іван Пятровіч, у суботу едзем?

– Як вырвуся, дык едзем!

– Адкуль вырвуся?

– З дому! Схавала, праклятая, стрэльбу!

– Ну?! І не паедзеце, значыць?

– Нічога гэта, братка, не значыць, бо я ўжо даў сыну паўрубля, каб вынюхаў, дзе яна яе заторкнула, ды перахаваў у іншае месца! Ён у мяне такі, што знойдзе! Паедзем!

* * *

Якая ж гэта сіла вялікая – паляванне!

А хіба не сіла?

Уявіце!

---



Малюнак Алега ГУЦОЛА.




*Калі чалавек не хоча раніцай займацца бегам, нішто не можа яго спыніць.*

Йогі Берра, амерыканскі спартсмен

*Калі з першага разу ў вас нічога не атрымалася – парашутны спорт не для вас.*

Невядомы аўтар

*Самае цяжкае ў боксе – збіраць свае зубы з падлогі рукой у баксёрскай пальчатцы.*

Фрэнк Хаббард, амерыканскі гумарыст, карыкатурыст

*Кожны трэнер ведае, як можна было выйграць учарашні прайграны матч.*

Аляксандр Забораў, расійскі трэнер



Калі вы сядзіце ў вагоне і ў думках ужо нацэльваецеся на крыжанку, разлятаюцца дзверы, і ў вагон заскоквае салідны чалавек:

– Таварышы! Наце маю стрэльбу, наце мае ягдташ і патранташ, а я пакуль што пад лаўку! Ды прыкрыйце мяне, галубочкі, вашай сучкаю, бо выцягне!

– Хто выцягне?

– Жонка выцягне! Ззаду бяжыць!

І калі ўскочыла ў вагон тое, што «выцягне», дык стары паляўнічы, што на сваім вяку «мядзведзяў душыў, як кацянят», перахрысціўся і прагаварыў са страхам:

– Тыгра бачыў, гіену бачыў, а ніколі так не пужаўся, як вось зараз! Мая памерла ўжо, царства ёй нябеснае, адвык ужо!

Ах, туманы над азёрамі!

* * *

На зялёным дыване, пад задуменнай вярбой, мрояцца ўспаміны пра знакамітага гардона*, – такіх сабак ужо зараз не бывае! – які аднаго разу стаў у стойку ў густым арэшніку на вальдшнэпа, ды так стаў, што ніякімі свісткамі, ніякімі гудкамі яго нельга было зрушыць з той стойкі, давялося яго пакінуць у лесе, бо настала ўжо ноч, а потым абставіны змусілі Івана Пятровіча на другі дзень ранкам паехаць з таго горада. Вярнуўся ён аж праз год, згадаў пра сабаку, пайшоў у лес, адшукаў тыя кусты:

– Гляджу, стаіць шкілет майго гардона, і стаіць з паднятай пярэдняй лапаю! Вось быў сабака! Мёртвая стойка? Такога сабакі я не бачыў! Даеш, бывала, у зубы яму запіску і грошы: «Джэк! Хуценька пляшку віна!» Праз паўгадзіны ўжо ляціць з віном. Толькі нельга было больш грошай даваць: рэшту абавязкова прап'е!



* * *

...А ці не зарагаталі б вы з апавядання аднаго старэнькага дзядка, як ён калісьці, калі быў маладзейшым, не меў стрэльбы, а заўсёды дадому з качкамі прыходзіў.

– Як жа гэта так?

– А так! Там на плёсе заўсёды качкі ёсць! Вось я на астравок пераплыву ды ў чароце схаваюся. Бо ведаю, што абавязкова нехта з паляўнічых туды прыйдзе сядзячых біць. Сапраўды: бачу – падкрадваецца, падкрадваецца... Ббах! А я ў чароце як закрычу: «Р-р-ратуйце!» Ну, ён адразу ж дае лататы, бо, думае, забіў кагосьці ці параніў! А я тады распранаюся, качачак пазбіраю і дадому...



**Пераклад з украінскай мовы Міхася МІРАНОВІЧА.**

*Гардон – паляўнічая парода сабак.






Малюнак Аляксандра ШМІДТА.




Малюнак Алега ПАПОВА.




Дарагі дружа Вожык!

Як высветлілася, існуюць дзейсныя спосабы барацьбы з правапарушэннямі на дарозе. Да прыкладу, размяшчаць побач з аўташколай майстэрню па вырабе гранітных помнікаў, як на гэтым фотаздымку. Тады кожны вадзіцель будзе памятаць, што неасцярожнасць на дарозе можа «прывесці» яго ў будынак аўташколы зноў, але па іншых справах. Ды яшчэ і ў якасці кліента...




**Ганна СІНІЦА,**
*г. Барысаў.*




Прывітанне,
калючы дружа!

Я вельмі люблю хадзіць на харчовыя базары. Прагульваешся па радах, каштуеш сала, мяса, садавіну, гародніну... За паўгадзіны такога паходу нават падсілкавацца паспееш.

Зусім іншае — магазіны. Бывае, забудзешся, дзе знаходзішся, ды кінеш у рот якую цукерчыну. Потым апамятаешся, ажно сорамна стане. Але прачытаўшы надпіс у гіпермаркеце «Карона», зразумеў, што не адзін я люблю пакаштаваць прадукт, перад тым, як яго набыць.

**Ягор МІРСКІ,**
*г. Мінск.*




АБДЫМКІ — абкураныя дымам.

ВАСТРЫЁ — траіцца ў вачах.

ДАЧЧЫН — дача важнага чыноўніка.

ЖАЛЕЙКА — пчала.

КАВУН — аматар кавы.

КАНЮШЫНА — кола для конскага воза.

КРУТАСВЕТ — глобус.

ПАРАЛІЧ — лічыць па парах.

ПІЛЬНЯ — будка вартаўніка.

САЛЬНІК — свіння.

**Даслала**
**Ганна ЧАРНУШЭВІЧ,**
*Слуцкі раён,*
*в. Замосце.*

## Анекдоты

З размовы дзвюх сябровак.
— Ганна, зноў у твайго Пятра сіняк пад вокам...
— Дык у спорце чаго толькі не бывае.
— Няўжо ён у цябе боксам займаецца?
— Не, у шахматы гуляе.
— Дык адкуль тады сіняк?
— Конь, кажа, убрыкнуў.



Гульня выдалася гарачая. Піва скончылася хутка, таму я пайшоў узяць яшчэ келіх. У гэты час нашай камандзе забілі гол.

Мараль: не трэба варатару хадзіць па піва.



На прыёме ў псіхатэрапеўта.
— Дапамажыце, доктар! Жыцця няма, увесь час з жонкай лаемся.
— Займіцеся спортам, — раіць урач. — Праходзьце кожны дзень па пяць кіламетраў.

Праз нейкі час пацыент тэлефануе доктару.
— Ну, як самаадчуванне? — пытаецца той.
— Цудоўна! Я ўжо ў пяцідзесяці кіламетрах ад дома...



З размовы сяброў.
— Ты добра ездзіш на веласіпедзе?
— Як маланка!
— Гэтак жа хутка?
— Не, зігзагамі.




# Барада

*Жартоўная песня*



Мы гулялі неяк з мілым
Ў садзе летняю парой.
Там сустрэлі чалавека
З доўгай чорнай барадой.
Ой, бяда, сяброўкі,
Ой, бяда, бяда:
Спадабалася мілому
Тая барада.

Вырашыў тады мой любы,
Каб мужчынам відным стаць,
Каб глядзелі ўсе навокал,
Бараду адгадаваць.
Ой, бяда, сяброўкі,
Ой, бяда, бяда:
Ну нашто яму, скажыце,
Тая барада?

Болей са сваім каханым
Ў сад гуляць я не пайду:
Дзень пры дні ён толькі чэша,
Даглядае бараду.
Ой, бяда, сяброўкі,
Ой, бяда, бяда:
Вельмі хутка адрастае
Тая барада.

А яшчэ начамі мілы
Перастаў мяне кахаць:
Кажа, што баіцца вельмі
Бараду сваю памяць.
Ой, бяда, сяброўкі,
Ой, бяда, бяда:
Стала з чорнай у мілога
Сівай барада.

Дык няхай мой ненаглядны
Чэша, чэша бараду.
Я ж, дзяўчына-прыгажуня,
Маладзейшага знайду.
Ой, бяда, сяброўкі,
Ой, бяда, бяда:
Ой, разлучыць, мабыць, з мілым
Тая барада!

**Васіль СЕМЯНЮК,**
*Дзяржынскі раён,*
*в. Баравікі.*







Малюнкі
Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА.




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




Малюнак Алега КАРПОВІЧА.




Малюнак
Пятра КОЗІЧА.

# ДЗЕ Ж ТОЕ ШЧАСЦЕ?



Свецін муж гарэлку п’е,
Ганчын — з жонкай не жыве,
Кацін — вечна на рабоце
Ды адгадаваў жывоцік.
Зінкін — па начах храпе,
Валькін — «палавінку» б’е.
Нінкін — надта валасаты,
Люсін — пяты раз жанаты...
На сябровак сваіх наглядзелася:
Дзе жаночае шчасце падзелася?
Я за долю для нас справядлівую:
Замуж выйшла — і стала шчасліваю!



**Тамара СЕНКЕВІЧ,**
*г. Навагрудак.*




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Андрэя СІДАРЭЙКІ.




Асляпляльны сезон.
Бюро адведак.
Варожы пыл.
Вечар пытанняў і доказаў.
Газавы казёл.
Газетны кіёк.
Гістарычнае мучэнне.
Камерцыйная вайна.
Камічны палёт.
Латарэйны балет.
Міліцэйскі мікрастоп.
Псіхатрупнае рэчыва.
Пчаліны рай.
Салаўіная дрэль.
Тост ДАІ.
Сала для банкетаў.
Свежы гумар часопіса.
Цынічная пляцоўка.
Шантаж шын.
Якасны навар.

**Заўважыў Міхал ШУЛЬГА,**
*Буда-Кашалёўскі раён,*
*г. п. Уваравічы.*




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Валянціны КАСЯК.

**Віктар ЛОЎГАЧ**

# ВОСЬ ГЭТА ДЗЕД!

*Іранеска*



Нас у палаце пяцёра. Ляжым — не сумуем. А тут перад абедам заходзіць медсястра і пытаецца:

— Хлопцы, у вас адно месца свабоднае?
— Так, — хорам адказваем мы.
— Значыць, падселім шостага.
— А хто ён, стары ці малады?
— Ды дзядок гадоў за семдзесят, — адказвае яна.
— Навошта ён нам? Штодзень нянькыцца трэба будзе!

## ПРЫМАЎКІ З ПРАЦЯГАМ

Не кажы «гоп», пакуль не пераскочыш. Але навошта казаць тое пераскочыўшы?




Ёсць зубы, ды хлеба няма. А калі б наадварот – няўжо лепей было б?

**З грошай кашы не вараць. За іх крупы купляюць.**

І жаба сваё балота хваліць. А навошта хваліць чужое, калі ў ім ёсць свая жаба?

Абое рабое. Ну, чым не ідэальная пара?



Лепей дурня згубіць, чым знайсці. Але ж хіба ён дурань, каб губляцца?

Добра смяецца той, хто смяецца апошнім. Прашу за мной чаргу не займаць.

На злодзеі шапка гарыць. Дык навошта было лезці красці ў палымнеючы дом?

**Воўк і лічанае бярэ. Ведае: захочуць – нанава пералічаць.**

Дома хоць не ўежна, дык улежна. Ці доўга паляжыш, калі не паясі?



Агонь гарыць, вада кіпіць, ды няма чаго варыць. Навошта тады дровы паліць?

**Адзін жыве, як хочацца, а другі, як прыйдзецца. Але жывуць жа!**

Як быка ні кармі, а ўсё адно малака не дасць. А хіба яго для таго кормяць?

**Даслаў Анатоль ЗЭКАЎ,**
*г. Мінск.*




Малюнак Алега ПАПОВА.



Малюнак Аляксандра ШМІДТА.

---

Мы былі ўпэўнены, што маем рацыю. Усе пяцёра – хлопцы-мацакі, кроў з малаком. Генка – штангіст, Андрэй – баксёр, Даніла – каратыст, Дзяніс – футбаліст, а я лёгкай атлетыкай займаюся.

– Толькі і ведай, што вадзі пад ручкі гэтага дзядка на розныя працэдуры. А ён будзе крактаць, хныкаць, варочацца з аднаго боку на другі, ноччу спаць не дасць, – забубніў Генка.

Мы моцна задумаліся. Трэба хутка нешта вырашыць, каб пазбавіцца ад старога.

Каратыст Даніла падаў ідэю:

– А няхай Андрэй, які ляжыць каля самага акна, зойме ложак каля ўмывальніка. Дзядуля абавязкова скразняку спалохаецца.

Мы так і зрабілі.

Неўзабаве стары зайшоў у палату.

– Добры дзень, сыночкі, – павітаўся ён з намі. – З маладымі ляжаць буду. Так і сам памаладзею. Дзе тут мой ложак?

Мы, як па камандзе, ускокваем і паказваем дзядулю ложак, што стаіць каля акна, зазначаем:

– Праўда, тут такі скразняк! Каб толькі не прадзьмула вас...

– Што вы, хлопцы, не хвалюйцеся! Мне не прывыкаць. Люблю скразнякі, яны асвяжаюць. Ды і не баюся іх зусім, – супакоіў нас стары. – Доўгі час служыў на поўначы ў марфлоце, а затым геолагам працаваў. Таму і сёння зімой у палонках купаюся, у самы люты мароз у гумавых ботах на зайцоў палюю. Так што не турбуйцеся.

Мы маўчалі, прысаромленыя. Вось табе і маладыя, вось табе і дзядок!

*Гомельская вобласць,*
*г. п. Акцябрскі.*




**Валянціна ГІРУЦЬ-РУСАКЕВІЧ**



## Стракозы

Над берагам балоцістым
Лятаюць самалёцікі,
Над лугавымі кветкамі –
Малюсенькія гэткія,
Ляцяць над асакою
І па-над вербалозам...
– Дык што ж гэта такое?
– Не што, а хто – стракозы!

*г. Валожын.*




Малюнак Андрэя СКРЫННІКА.

**Уладзімір МАЦВЕЕНКА**

## Мурзілка



– Бяжы ў хату,
Будзе дождж, –
Кажа Янку маці. –
Ой, а брудны да чаго ж,
Хоць адмыю ў хаце!
Бы гарохам па страсе,
Падае вадзіца,
Лес галінкамі трасе,
Каб хутчэй памыцца.
Мыюць валуны гарбы,
Мыюцца сасонкі,
Мыюць з радасцю грыбы
Шапкі-парасонікі.
А як толькі дождж прайшоў,
Янка зноў забруджаны:
З кіем у руках пайшоў
Перамерваць лужыны.

## ЖАРТОЎНЫЯ ПЫТАННІ

Што становіцца больш, калі яго паставіць дагары нагамі?

*(Лічба 6.)*

На якое пытанне нельга адказаць «так»?

*(Вы спіце?)*

Што не мае даўжыні, глыбіні, шырыні, вышыні, але яго можна вымераць?

*(Час, тэмпература.)*

Хто мае дзве рукі, два крылы, два хвасты, тры галавы, тры тулавы і восем ног?

*(Конік, які трымае ў руках курыцу.)*

---

**Вольга ЛАБАЖЭВІЧ**

## ЗАГАДКІ



На выгляд – як дзве паласы,
Крыху задзёртыя насы.
На іх спяшаецца Ягорка
Зімой імкліва з'ехаць з горкі.

*(Лыжы.)*

* * *

Па ім стукаюць нагамі,
За ім бегаюць кругамі.
Хто на горкі яблык збіты,
Ды ніколі не сярдзіты?

*(Мяч.)*

* * *

Іх штурхаюць – не гаруюць,
Яны ўверх-уніз шыбуюць.
Доўга могуць не спыняцца,
Любяць дзеці пакатацца.

*(Арэлі.)*

* * *

З гары яны імчацца самі,
Блішчаць на сонцы палазамі.
У Пеці запытай ці Янкі,
Адкажуць хлопцы: гэта ...

*(Санкі.)*

* * *

Кіем шарыкі ганяюць,
Іх у лузы забіваюць.
Рады тата, рады брат
Згуляць партыю ў ...

*(Більярд.)*

# Небыліцы

**Яніна ЖАБКО**




Мядзведзь зернейка дзяўбе,
Певень мёд шукаць ідзе.
З мышкай ластаўка гуляе,
Котка між аблок лятае.

*г. Мінск.*



**Міхал ШУЛЬГА**

## Пеўнік



На плячук паклаў касу,
Выбег пеўнік на расу.
Трэба сена накасіць,
Каб кароўку накарміць.
Лыску ён пасля падоіць,
Малаком сям'ю напоіць.

*Буда-Кашалёўскі раён,*
*г. п. Уваравічы.*




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА,
тэма Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




– Тата, я ўжо навучыўся пісаць! – кажа Толік.

– І што ты напісаў?

– Пакуль не ведаю, бо яшчэ не ўмею чытаць...



– Колькі будзе, калі да пяці дадаць пяць? – пытаецца настаўнік у Андрэйкі.

Той маўчыць, бо не знае, што адказаць.

– Я даў табе пяць яблыкаў, потым яшчэ пяць. Колькі яблыкаў ты павінен мне аддаць?

– Дванаццаць, – спрабуе ўгадаць Андрэйка.

– Сядай, дрэнна.

– Эх, ты! – шэпча сусед Саўка. – Сказаў бы дзесяць, усё было б добра.

– Ага, дзесяць... Я дванаццаць прапанаваў і то ён не згадзіўся.

**Даслаў Мікалай ГЛЕБ,**
*г. Ляхавічы.*

* * *

Нагою моцна адштурхнешся –
Уперад хутка панясешся.
Чым днямі сумаваць у хаце,
Катацца лепш на ...

*(Самакаце.)*

* * *

Не балетмайстар, не танцор,
А круціцца, нібы віхор.
Як перастане ён вярцецца,
Дык спачываць на бок кладзецца.

*(Ваўчок.)*

*г. Клецк.*




Я рана прачынаюся,
Зарадкаю займаюся,
Бо ў нас кожнае дзіця –
За здаровы лад жыцця!

**Запісала за сынам і даслала**
**Ганна ЧАРНУШЭВІЧ,**
*Слуцкі раён,*
*в. Замосце.*






## Анекдоты
**ад Вікторыі Віктараўны КАРАЛЬКОВАЙ,**
дырэктара Мазырскай раённай цэнтральнай бібліятэкі імя А. С. Пушкіна

Ведаючы пра тое, што ў размове з жанчынай большасць мужчын чуе першую фразу, а запамінае апошнюю, жонка за абедам сказала мужу:

– Ездзіла па пакупкі, моцна разбіла машыну, смачны боршч, праўда?

– Праўда, – адказаў ён.

* * *

– Тата, а ў цябе ў дзяцінстве быў планшэт?

– Не, тады і камп'ютараў яшчэ не было.

– А на чым ты тады гуляў?

– На вуліцы!

* * *

– А што будзе, калі доўга глядзець на Месяц?

– Не выспішся!




Малюнак Пятра КОЗІЧА.

«Вожык» – грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс
№ 8 (1523), 2015 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Галоўны рэдактар
Юлія Францаўна ЗАРЭЦКАЯ.
Рэдакцыйная калегія: Анатоль АКУШЭВІЧ, Сяргей ВОЛКАЎ, Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ, Мікола ГІРГЕЛЬ, Тамара ДАНІЛЮК, Валянціна ДУБРОВА, Юлія ЗАРЭЦКАЯ, Казімір КАМЕЙША, Алег КАРПОВІЧ, Уладзімір МАТУСЕВІЧ, Міхась ПАЗНЯКОЎ, Уладзімір САЛАМАХА, Васіль ТКАЧОЎ.
Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел)*, Ганна КІСЛУШЧАНКА, Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў)*, Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры)*.
Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zvyazda.minsk.by.
Паштовы адрас: 220005, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 39.
E-mail: vozhyk@zviazda.ru; a-vojik@yandex.ru
Тэлефоны: галоўнага рэдактара – 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага – 284-84-52, бухгалтэрыі – 287-18-81, факс – 284-84-61.
Падпісныя індэксы:
74844 – індывідуальны, 01380 – індывідуальны льготны,
748442 – ведамасны, 01381 – ведамасны льготны.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар – галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ
Камп'ютарная вёрстка: Святлана ТАРГОНСКАЯ
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ
Падпісана ў друк 07.08.2015. Фармат 60x84 $^{1}/_{8}$. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,45. Тыраж 1374 экз. Заказ .
Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск.





*Шчаслівых шлюбаў было б больш, калі б мужы стараліся лепш зразумець жонак, а жонкі стараліся лепш зразумець футбол.*

Невядомы аўтар

*Мала трапіць у вароты, трэба яшчэ прамахнуцца міма варатара.*

Канстанцін Меліхан,
рускі пісьменнік

*Спорт – гэта адзінае відовішча, у якім, нягледзячы на колькасць паўтораў, канец застаецца невядомым.*

Нейл Сайман,
амерыканскі драматург, сцэнарыст

*Ты не навучышся катацца на каньках, калі баішся быць смешным. Лёд жыцця коўзкі.*

Джордж Бернард Шоу,
ірландскі драматург, пісьменнік






Малюнак Алега ГУЦОЛА.



# Музычныя ўсмешкі








«Музіцыравалі» мастакі
Алег КАРПОВІЧ, Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ
і Аляксандр ШМІДТ.








Малюнкі Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

# Вожык чытае «Вожыка»...

Калі вы атрымалі часопіс «Вожык», спачатку разгледзьце малюнак на вокладцы.

Анонсы падкажуць, на якой старонцы можна прачытаць некаторыя цікавыя творы.

Бавіць час з любімым часопісам вельмі прыемна на дачным на газоне.

Ды і за сталом таксама добра пачытаць...

Часопіс не толькі весяліць, але і прымушае задумацца.

У ім шмат колкіх фельетонаў, баек, прыпевак, гумарэсак...

А колькі карыкатур ды коміксаў!

Ёсць спецыяльныя старонкі для дзяцей.

І не забывайце, што часопіс выходзіць штомесяц!

Патупаю на пошту, падпішуся на наступны «Вожык»!

*Фота-комікс Ганада ЧАРКАЗЯНА.*

## Нашы індэксы:

**ІНДЫВІДУАЛЬНЫ — 74844**,

**індывідуальны льготны**
(для жыхароў сельскай мясцовасці: райцэнтры і населеныя пункты раёнаў) — **01380;**

**ВЕДАМАСНЫ — 748442**,

**ведамасны льготны**
(для ўстаноў Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі) — **01381.**

*Чытайце!*
*У наступным нумары:*

Ці можна злавіць у жыце русалку?

Чым пахнуць багі Гера, Афрадыта і Зеўс?

Чаму ёсць краіна Гватэмала, але няма дзяржавы Гватэмнога?

***І многае-многае іншае! Да сустрэчы!***

**ПАДПІСКА НА II ПАЎГОДДЗЕ 2015 ГОДА**

**Падпіска на 1 месяц каштуе:**
індэкс 74844, цана 29100 рублёў,
індэкс 01380, цана 23200 рублёў,
індэкс 748442, цана 84600 рублёў,
індэкс 01381, цана 66700 рублёў.

**Падпісацца можна ў любым аддзяленні сувязі РУП «Белпошта», у кіёсках РУП «Белсаюздрук». А яшчэ — па інтэрнэце (з дапамогай пластыкавых электронных картак, электронных грошай) ці праз аўтаматызаваную сістэму Адзінай разліковa-інфармацыйнай прасторы (АРІП).**

